*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 6 (545)    6 ЛЮТАГА 2002 г.

## Прапанова
## *Сакратарыяту Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*
## з нагоды конкурсу на новы беларускі гімн

Таварыства беларускай мовы падтрымлівае ідэю правядзення конкурсу на новы беларускі гімн. У сувязі з гэтым прапануем у якасці гімна Рэспублікі Беларусь зацвердзіць любімую і папулярную ў народзе песню **"Магутны Божа" на словы Наталлі Арсенневай, музыка Міколы Равенскага** .

Наша прапанова палягае ў тым, што пераважная бальшыня грамадзян Беларусі хрысціяне, і ў нашай краіне існуюць трывалыя хрысціянскія традыцыі. Таму мы ўпэўнены, што **"Магутны Божа"** будзе спрыяць кансалідацыі людзей ў моцную супольнасць і натхняць іх на штодзённую стваральную працу.

Мы лічым, што **"Магутны Божа"** - найбольш прыдатны варыянт нацыянальнага гімна, як па веліччасці і прыгажосці музыкі, так і па глыбокім змесце.

**31.01.2002.**
**г. Менск.**

**Заява Сакратарыяту Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

## Спыніць праслед Саюзу беларускіх пісьменнікаў

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рашуча асуджае дзеянні ўладных структур, накіраваныя на метадычнае маральнае і фінансавае ўдушэнне пісьменніцкай арганізацыі.

Цягам апошніх пяці гадоў Саюз пісьменнікаў церпіць знявагі, абразы і здзекі. Спачатку забаранілі называцца Беларускім, затым адабралі маёмасць, пазбавілі ўсялякіх сродкаў для існавання і пастаянна ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі здзекаваюцца з тых, хто складае гонар беларускай літаратуры, гонар беларускай нацыі. Вядомы культурна-асветніцкі асяродак сталіцы Дом літаратара ператварылі ў "раскіданае гняздо".

Усё гэта робіцца тымі, хто, маючы ўладу, зацята змагаецца з аплотам беларушчыны, з беларускай мовай, на якой ствараецца пераважная бальшыня твораў нашых пісьменнікаў. Такія дзеянні інакш, як вандалізмам, не назавеш.

Сённяшнія ўладары Беларусі! Пакайцеся перад Богам і людзьмі, вярніце нарабаванае і спыніце праслед пісьменніцкай арганізацыі.

**31. 01. 2002 г.**

## ТБМ патрэбна фінансавая дапамога

Дарагія сябры! Чытачы і падпісчыкі "Нашага слова"!

Зараз мы збіраем ахвяраванні на выданне беларускіх каляндарыкаў з партрэтамі Браніслава Тарашкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ігната Дамейкі і Міхася Ткачова, а таксама сродкі на падпіску газеты "Наша слова" вясковым і школьным бібліятэкам, якія не маюць на гэта грошай.

Просім вас прыняць актыўны ўдзел у гэтай пачэснай справе. Калі Вы жыхары Менска, то грошы можна прынесці непасрэдна ў нашу сядзібу, што на вуліцы Румянцава, 13 (кожны дзень, акрамя выхадных, з 10.00 да 19.00). Таксама ахвяраванні можна пералічыць на наш разліковы рахунак № 3015212330014 у МГД АТ "Белінвестбанк" г. Менска, код 764 альбо выслаць паштовым пераводам на адрас: ТБМ імя Ф. Скарыны, 220005, Менск, вул. Румянцава, 13.

Просім таксама тых сяброў, якія па нейкіх прычынах не здалі сяброўскія складкі за мінулы год (1.000 руб. для тых, хто працуе; 300 - пенсіянеры і студэнты, 100 - школьнікі), прынесці іх у сядзібу альбо пераслаць па пошце.

Тыя, хто жадае падтрымаць вышэйзгаданую ініцыятыву, могуць заплаціць складкі і за гэты год (2.000 руб. для тых, хто працуе; 1000 - пенсіянеры і студэнты, 400 - школьнікі).

Таксама мы працягваем выдаваць прыгожыя новыя пасведчанні сябра ТБМ коштам 1.200 рублёў. Калі ласка, прынясіце альбо дасылайце нам свае фотаздымкі памерам 3х4 і наступныя звесткі пра сябе: год нараджэння, месца працы ці вучобы, дакладны адрас з паштовым індэксам і разборліва напісаныя імя, прозвішча і імя па бацьку.

Усе сабраныя сродкі будуць выдаткаваныя на вышэйзгаданыя справы ды іншыя культурна-асветніцкія праекты ТБМ.

Чакаем Вашых допісаў, прапаноў і падтрымкі.

**З павагай**
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** Алег Трусаў.




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Сафро М.З. – 5000
2. Нікітчанка А.В. ( Менск) – 5000
3. Чэчат Алесь (Менск) – 5000
4. Супрац. БелаПАН – 39000
5. Ада Райчонак (Шаркаўшчына) - 15000
6. Сям'я Адамовічаў (Менск) – 10000
7. Шупеньля Сяргей (Менск) – 5000
8. "Каляднікі" (Менск) – 1000
9. Суполка Гістфака БДУ (Менск) – 1000
10. Казлеўская І -- 800
11. Кановіч Алесь -- 10000
12. Шкірманкоў Фелікс -- 5000
13. Бакуновіч Наталля -- 1000
14. Верняковіч Л. В. -- 1000
15. Ляўчук Міхась -- 1500

## Споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы



**Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь сп. Навіцкаму Г. В.**

**Паважаны Генадзь Васілевіч!**

У студзені гэтага года споўнілася 110 год з дня нараджэння Рыгора Раманавіча Шырмы – знакамітага беларускага музычнага і грамадскага дзеяча, вядомага фалькларыста, публіцыста і харавога дырыжора.

У сувязі з гэтым просім Вас устанавіць помнік Рыгору Шырме ў г. Пружаны Берасцейкай вобласці, надаць яго імя музычным школам у Горадні і Менску, а таксама ўстанавіць яго бюст перад уваходам у Дзяржаўную філармонію на праспекце Францішка Скарыны ў Менску.

З павагай
**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны** **Алег Трусаў.**

*(Матэрыял пра Рыгора Шырму чытайце на ст. 2.)*

Творчае моладзевае аб'яднанне **"Вятрак"**, якое займаецца прапагандай беларускай мовы, культуры, гісторыі, пачынае рэалізоўваць рэспубліканскі праект "Мы разам – за беларускую мову". У ім прымуць удзел болей за дзесяць грамадскіх арганізацый з розных гарадоў і вёсак нашай рэспублікі.

Падчас праекту будуць праведзены паэтычныя вечарыны, школьныя мерапрыемствы, акцыі; будзе выпускацца штомесячны інфармацыйны бюлетэнь; будуць выдавацца кніжачкі для дзяцей першых-другіх класаў і распаўсюджвацца сярод іх. Таксама прадстаўнікі арганізацый выступяць з заклікам да бацькоў аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы/класы.

Па ўсіх цікавячых пытаннях можна звярнуцца да нас па адрасу: Гарадзенская вобласць, Слонімскі раён, вёска Мірная, 231825, ТМА "Вятрак", Алегу Шэлеставу, або па тэлефоне (01562) 9-11-04, Алег.

# Сын свайго этнасу

У студзені гэтага года вядомаму беларускаму фальклярысту, публіцысту, харавому дырыжору, музычнаму і грамадскаму дзеячу Беларусі Рыгору Раманавічу Шырме споўнілася 110 год з дня нараджэння.

Шырма нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, на Пружаншчыне, у сялянскай сям'і. У 1918 годзе скончыў настаўніцкі інстытут і працаваў настаўнікам у розных школах Зяходняй Беларусі. Не маючы спецыяльнай музычнай адукацыі, але вельмі таленавіты ад прыроды, ён усё сваё жыццё прысвяціў стварэнню народных харавых калектываў у розных гарадах і мястэчках Беларусі.

Спачатку гэта былі народны хор у Пружанах, хор Беларускай гімназіі і хор Беларускіх студэнтаў у Вільні. Адначасова ён займаў актыўную грамадскую пазіцыю, быў адным з заснавальнікаў Таварыства беларускай школы, дзе працаваў сакратаром Галоўнай управы з 1926 па 1937 год. Вельмі падтрымліваў заходнебеларускіх пісьменнікаў і паэтаў, выдаў за свае сродкі зборнік паэзіі Максіма Танка "На этапах" у 1936 годзе. За сваю свядомую беларускую пазіцыю двойчы быў зняволены польскай уладай.

Пасля 1939 года Рыгору Шырме пашанцавала. Разам з Максімам Танкам ён актыўна ўпісаўся ў савецкую інтэлігенцкую эліту. У 1940 годзе ў Беластоку Шырма стварае беларускі ансамбль песні і танцу. Атрымаў за сваю працу званні народнага артыста БССР і СССР, зорку Героя Сацыялістычнай Працы. Доўгі час быў народным дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і Старшынём праўлення Саюзу кампазітараў БССР. З 1910 года да канца сваіх дзён (памёр у 1978 годзе), ён збіраў беларускія народныя песні і выдаў шэраг фальклёрных зборнікаў, сярод іх вылучаецца зборнік "Дзвесце беларускіх народных песень", які выйшаў у 1958 годзе. Дзякуючы Шырме, у 1959-1976 гг, выйшла чатырохтомнае выданне "Беларускія народныя песні".

Аднак не гледзячы на розныя савецкія рэгаліі, ён ніколі не цураўся беларушчыны, карыстаўся беларускай мовай у штодзённым жыцці, рупліва працаваў з моладзю, прышчэпліваючы ёй любоў да беларускай песні, мовы, старажытнага народнага фальклору.

Пра Шырму шмат пісалі, але яго 110-гадавы юбілей мабыць, прайшоў бы ў багатым на юбілеі славутых беларусаў 2002 годзе амаль незаўважаным, каб не кніга, прысвечаная яго савецкай частцы жыцця, якая пабачыла святло менавіта ў юбілейныя дні.

Напісаў яе адзін з малодшых вучняў Шырмы Аляксандр Жураў і даў сваёй працы прыгожую назву "Жыццё з песняй". А.В. Жураў паўтара дзесятка гадоў спяваў у капэле пад кіраўніцтвам Рыгора Раманавіча. У яго склаліся даволі блізкія адносіны са сваім мастацкім кіраўніком і таму да яго трапілі рэдкія дакументы і фотаздымкі пачынаючы з 1940 года. Сярод іх унікальны дзённік выступленняў капэлы Шырмы, хроніка яе канцэртаў за 30 год, пачынаючы з першага канцэрта ў Беластоку 23 лютага 1940 года.

Акрамя аўтарскіх успамінаў, у кнізе Журава знайшлося месца ўспамінаў пра Шырму пісьменніцы Ніны Загорскай і артыстаў Міхася Шуманскага і Людмілы Сцяфанавай, Раісы Вол, Галіны Ламакінай і Мікалая Лукашука.

Калі ўважліва прачытаць кнігу, можна даведацца пра шмат якія цікавыя факты з жыцця і дзейнасці Рыгора Шырмы. Напрыклад, пра арышт Рыгора Шырмы сталіністамі ў першыя дні вайны, у чэрвені 1941 года. У гэты час ансамбль Шырмы выступаў у рускім горадзе Арле на мабілізацыйных пунктах. Праслухаўшы некалькі канцэртаў, мясцовыя ахоўнікі парадку абвінавацілі Рыгора Раманавіча ў нацыяналізме ў сувязі з вялікай колькасцю ў праграме беларускіх народных песень і танцаў і арыштавалі, а ансамбль хацелі распусціць.

23 чэрвеня 1941 года затрыманых артыстаў перавезлі ў Маскву і пачаліся допыты. Аднак, пасля просьбы Беларускага ўрада калектыў захавалі, Шырму вызвалілі з-пад варты, але рэпертуар цалкам змянілі. 29 чэрвеня ў Крамлі адбываецца канцэрт для работнікаў НКУС, пасля якога пагроза мінавала.

Але лепей пагартаем унікальны дзённік канцэртаў капэлы Шырмы. Ужо 1 студзеня 1944 года калектыў, які вярнуўся ў Беларусь, дае першы канцэрт у Нова-Беліцы пад Гомелем з нагоды 25 угодкаў стварэння БССР. 28 чэрвеня ў Нова-Беліцы адбываецца вечарына, прысвечаная 2-й гадавіне з дня смерці Янкі Купалы. І гэта ў тыя часы, калі нават гаварыць пра абставіны гэтай трагедыі было строга забаронена. 16 ліпеня адбыўся першы выступ у вызваленным ад фашыстаў Менску і не дзе-небудзь, а на Парадзе беларускіх партызан. Другі канцэрт для партызан адбыўся на Камароўцы 10 верасня. З 7 кастрычніка Дзяржаўны ансамбль песні і танца БССР знаходзіцца ў Горадні, дзе адбываецца яго першы выступ у гарадскім тэатры. У Горадні калектыў Шырмы ў 1950 годзе атрымаў новую назву – Дзяржаўны хор БССР.

З 1952 года артысты пераязджаюць на сталае жыхарства ў Менск. Увесь гэты час артысты прапагандуюць народную музыку, спевы і танцы ў розных гарадах і мястэчках Беларусі, асабліва ў заходняй яе частцы. Зрэдку выступаюць нават у школах, прычым да 1959 года, калі большасць гарадскіх школ яшчэ былі беларускімі, Шырма дакладна пазначыў у дзённіку выступы ў школах з іншай мовай навучання. Напрыклад, 31 студзеня 1945 года ў Лідзе канцэрт прайшоў у рускай школе, а 28 снежня 1947 года – на выбарчым участку ў Горадні, у памяшканні польскай школы. 14 студзеня 1956 года артысты выступілі перад вучнямі і настаўнікамі 37 рускай школы ў Менску.

Цікава, што ў сакавіку 1945 года захоўваліся такія старыя назвы беларускіх гарадоў, дзе выступаў калектыў Шырмы, як Брэст-Літоўск і Высокалітоўск. Назва Брэст-Літоўск пазначана ў дзённіку Шырмы ў сакавіку 1947, 1948 і 1950 года.

Па падліках Аляксандра Журава, за 30 год сваёй дзейнасці ансамбль Шырмы правёў 5000 канцэртаў, з іх на тэрыторыі Беларусі – 3286. У 1970 годзе Шырма пакінуў працу ў капэле і пайшоў на адпачынак.

Нельга не пагадзіцца з Аляксандрам Журавым у тым, што "Рыгор Раманавіч Шырма – з'ява глыбока нацыянальная, фенаменальная. Як і ўсякі нацыянальны феномен, ён увабраў у сябе ўсё лепшае, што ёсць у народзе, у яго творчасці – мудрасць, высакародства. І, галоўнае, - усведамленне сябе сынам свайго этнасу, служыць яму сэрцам і душой".

Тым, хто жадае набыць такую цікавую кнігу мы раім звярнуцца ў кніжную крамку Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта культуры (на другім паверсе галоўнага корпусу), а таксама ў магазін "Ноты", які размешчаны на вуліцы Леніна ў цэнтры Менска. Наклад кнігі – 1000 асобнікаў.

*Алег Трусаў.*




# *У памяць Браніслава Тарашкевіча*

## Якія мы?

***- А што, сынок, беларускі народ варты, каб ты за яго склаў сваю галаву? (Пытанне Адама Тарашкевіча да сына)***

Усё на гэтым свеце мае сваю логіку і мернасць. І святкаванне юбілеяў усталявалася невыпадкова. Юбілеі даюць мажлівасць згадваць нам найважнейшыя старонкі нашай гісторыі, яе слаўных сыноў, іхнія заслугі перад сваім народам, Бацькаўшчынай.

... Браніслаў Тарашкевіч першы даў нашаму народу граматыку беларускай мовы для школ. Усе сёняшнія школьныя граматыкі роднай мовы бяруць выток з Тарашкевічай граматыкі. А гэта значыць, што юбілеі слыннага граматыста павінны быць усенароднымі. Усе грамадзяне Беларусі прайшлі праз граматы-кі, усе спазналі граматыку праз падручнікі роднай мовы. Аднак нашай афіцыйнай грамадзе, а за ёй і астатняму люду агульналюдскія зако-ны не заўсёды пісаныя.

Юбілеі слыннага граматыста – 110-ую гадавіну з дня яго народзінаў – адзначылі толькі паасобныя установы. Сярод іх і сталічны кінатэатр "Змена". Удзельнікам імпрэзы прапанавана было паглядзець аж тры шчымлівыя дакументальныя стужкі. Прынамсі: "Зямля Тарашкевіча", "Браніслаў Тарашкевіч", "Дзядзька Уласаў". А паміж праглядам стужак сваімі развагамі, як хто адчувае і разумее Тарашкевічаву постаць, з прысутнымі падзяліліся народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, даследчыкі Тарашкевічавай спадчыны Арсень Ліс і Уладзімір Содаль, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў. Шмат цікавага пачулі прысутныя пра Браніслава Тарашкевіча пра яго апошнія драматычныя месяцы жыцця ад доктара гістарычных навук прафесара Уладзіміра Міхнюка.

Імпрэза ў кінатэатры "Змена", безумоўна, для ўсіх прысутных сталася незабыўнай. А для астатніх?

На жаль, ні наша радыё, а тым больш тэлебачанне, ні шматлікія друкаваныя выданні краіны ні словам не заікнуліся пра слыннага граматыста і дзяржаўнага дзеяча, вучонага з нагоды яго юбілею.

Што б усё гэта значыла? Пра што ўсё гэта сведчыць?

Ва ўсіх цывілізаваных краінах ушанаванне слынных сыноў свайго народу ёсць святая справа. Чаму ж у Беларусі святая справа становіцца выключэннем?! Сумна, панове! Вельмі сумна! Грэх забывацца пра тых, хто клікаў свой народ з цемры да святла, хто ахвяраваўся сваім жыццём дзеля лепшай нашай будучыні.

На імпрэзе ў кінатэатры "Змена" прысутныя пазнаёміліся і з Тарашкевічавымі сваякамі і Аляксандра Уласава: Ірынай Ніжанкоўскай і Рымай Гірыловіч, якія, як могуць, дбаюць пра спадчыну сваіх слынных продкаў, рупяцца, каб гэтая спадчына не расцярушылася на шляхах нашай гісторыі.

Заключыў верачыну сваім вершам, прысвечаным Б. Тарашкевічу, Сяргей Панізнік. Кіраўнік клуба "Спадчына" Анатоль Белы расказаў прысутным, як згаданая суполка ўшаноўвае змагароў за роднае слова. Сярод узнагародаў, між іншым, клуб мае і медаль "Браніслаў Тарашкевіч".

*Ладымер Хтоцкі.*

# З далёкім прыкідам

## (З разваг падчас імпрэзы ў кінатэатры "Змена")

У 1933 годзе Тарашкевіча абмянялі на Аляхновіча.

Навошта Саветам спатрэбіўся гэты абмен: аднаго беларуса мяняць на другога?! Ці задумаўся пра гэта Тарашкевіч? Чаму даверыўся? Чаму не задумаўся? Калі так добра ў Радавай Беларусі, то чаго ж з яе так ляціць Аляхновіч? Хіба Тарашкевічу за санацыяй Пілсудскага не было могі? Паспадзяваўся, што ў Радавай Беларусі яму дадуць разгарнуцца... Ну, але мы ведаем, як абышліся з Тарашкевічам камісары Беларусі. Яны не толькі не далі яму мажлівасці будаваць беларускі дом па-беларуску, але і жыць не дазволілі ў Беларусі...

Дык навошта рабіўся гэты абмен?

Мабыць, у Радавай улады былі далёкія прыкіды...

Хто такі Аляхновіч?

Усяго-наўсяго – драматург. Абсяг яго дзейнасці – якісь тэатр... А Тарашкевіч – спрактыкаваны, актыўны палітычны дзеяч. Стварыў статысячную Грамаду – арганізацыю, якая будзе надалей замінаць Саветам, усталёўваць у Заходняй Беларусі камуністычную ідэалогію і русіфікацыю. То ці не лепш загадзя, яшчэ да верасьнёўскага паходу, абяскровіць беларускую Грамаду, расхістаць яе, а самога стваральніка выманіць з Заходняй Беларусі і вынішчыць, што і зрабілі. І невядома яшчэ, хто былі яго набліжаныя ў Маскве. Ці не прыстаўленыя ад нкэвэдэ?

Ва ўсім разе радавыя камісары ўсю рэштку Тарашкевічавага жыцця скіравалі на вынішчэнне, з чым яны справіліся паспяхова. Тарашкевіч з сваёй Грамадой не ўпісваўся ў інтэрнацыянальныя пастулаты камуністаў. Такія, як ён, не павінны былі замінаць усталяванню "усенароднага шчасця" на зямлі. От пад такую бальшавіцкую формулу і падпаў Тарашкевіч і ўсе ягоныя аднадумцы.

***Уладзімір Содаль.***

# Слова ўдзячнасці

Час ад часу бываю на творчых вечарынах у кінатэатры "Змена". І хачу з удзячнасцю сказаць, што кіраўніцтва і канкрэтныя арганізатары робяць вялікую справу – справу сапраўды патрыятычнага выхавання нашага грамадства, паказваючы ў сваёй кіназале перш за ўсё не выдуманныя, а сапраўды дакументальныя гістарычныя людзі нашай гісторыі – дакументальныя фільмы так неабходныя для захавання нашай гістарычнай памяці пра слаўныя падзеі, сыноў Бацькаўшчыны гістарычных і сучасных.

Дзякуй арганізатарам, выступоўцам за 110-я ўгодкі слаўнага сына Беларусі Браніслава Тарашкевіча, Аляксандра Уласава – выдаўца і рэдактара "Нашай нівы".

Дай Бог усім са "Змены" здароўя і доўгіх гадоў жыцця!

*Л. Акаловіч.*

Вельмі ўдзячны дырэкцыі к/т "Змена" за правядзенне вечарыны, прысвечанай 110-м угодкам з дня нараджэння Б. Тарашкевіча, а таксама за прагляд стужак "Зямля Тарашкевіча" і інш. Мы жадаем кіраўніцтву к/т "Змена" далейшых поспехаў на ніве працы па захаванню гістарычнай памяці беларускага народа.

**Нашчадкі роду Уласавых**
***Уласава, Ніжанкоўская.***

Шчыры дзякуй за фільмы пра жыццё і дзейнасць Браніслава Тарашкевіча, за магчымасць чуць і бачыць людзей неабыякавых да гісторыі Беларусі, што яны нясуць народу Беларусі на агульны спажытак і дапамогу ў нялёгкі час выпрабаванняў.

***Ст. лабарант Музея старажытнабеларускай культуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі Ігар Карашчанка.***





# У памяць Браніслава Тарашкевіча

## Браніслаў Тарашкевіч, якім яго ведалі родныя і землякі

Матэрыялы нашых вандровак па Віленшчыне ў 1992-1993 гг., калі аўтару гэтых радкоў пашчасціла пабываць у розных мясцінах былой Лаварышскай гміны Віленска-Троцкага павету (цяпер Вільнюскага раёна Літоўскай рэспублікі), у прыватнасці ў наваколлі



**Традыцыйнае гумно, якіх шмат на Віленшчыне. Дарога з Кяны да Чарнулішак. Восень 1993 г. Фота І. Карашчанкі.**

родных Браніславу Тарашкевічу Чарнулішках, дзе ён вельмі часта бываў (з Чарнулішкаў родам была яго маці, а некаторыя з родных лічаць, што Браніслаў Адамавіч нарадзіўся там, а не ў Мацюлішках). Тады я і даведаўся з расповедаў яго родных, як, прыкладам, пляменніцы Браніслава Марыі Восіпаўны Багдановіч (у дзявоцтве Тарашкевічанка, 1922 г. нар.), якім быў Браніслаў Адамавіч для сваіх родных і блізкіх. "Ён не любіў засмучацца, залішне бедаваць, - згадвала Марыя Восіпаўна. Падбадзёрваў сваіх блізкіх. Пры гэтым любіў звярнуцца ў пісьме да сваіх вершыкам. Выкарыстоўваў, як бы хто сказаў, матывы беларускага народнага фальклёру. У адным з лістоў да родных ён пісаў верш:

***"Гараў я над гарою,***
***Дык і плуг зламаўся.***
***Ну ні плакаў я над сабою,***
***Дык сеў і засмяяўся".***

Пісаў, што прывык да гаравання.

У 1932 годзе пасля арышту яго ў 1931 годзе. У час пераезду з Данцыга (Гданьска) у Рыгу – у Тчэве – з Лукішскай турмы ён у вершах пісаў пра брата Юзіка і швагера Гароніма, якія будавалі тады нешта ў сваёй гаспадарцы, так:

***Спічастыя бароды***
***Цягалі калоды***
***Бярвенні і латы***
***На гумны і хаты.***
***Народ не багаты, -***
***Так нас ушчамілі***
*(у сэнсе: улады абкладалі сялян падаткамі)*
***Што і свет ня мілы,***
***Аднак ні чагуткі –***
***Ні беды, ні смуткі***
***Засвеця сонца***
***І ў наша ваконца.***

*"Пісаў нібы вершыкамі і нігды не бедаваў за сабой. Усім суседзям перадаваў паклоны"*, - казалі нам родныя Браніслава Тарашкевіча. У час суда Браніслаў заклікаў свайго бацьку пазбавіцца наёмных працаўнікоў, набыць сельскагаспадарчую машыну, каб машынамі самім абрабляць зямлю. Браніслаў любіў народную песню. Было што як пойдзе касіць, знекуль дадаму прыехаўшы, дык спявае са ваімі хлопцамі:

***На вайну, сынок, паедзеш***
***І стуль не прыедзеш,***
***Панясеш ты плечы***
***Пад нямецкія мечы.***
***Панясеш ты галоўку***
***У чужую старонку...***

Паказалася прывабнай такая пабытавая рысачка. Дома, як еў, Браніслаў вельмі любіў есці з патэльні. Вясёлы нораў, жыццялюбнасць, сказаліся на яго адносінах з мясцовымі служыцелямі каталіцкага касцёла, якія, між іншым, былі вядомы ў наваколлі сваёй беларускай нацыянальнай свядомасцю. У Лаварышскім касцёле пэўны час быў арганіст Пазняк (пазней з артыкула ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" я даведаўся, што гэта быў Янка Пазняк (жыў з 1887 да пасля 1939 года), у 1928 – недзе пасля 1931 года – сакратар Прэзідыюму ЦК Беларускай Сацыяльнай Дэмакратыі. Дык Браніслаў Тарашкевіч неяк жартам падгаварыў яго ў вечары зайграць "Зялёны дубочак". Вось такі жыццялюбівы гарэза быў у маладосці Браніслаў Тарашкевіч. Але трэба адзначыць – гэта было побач са шчырай павагай вернікаў. Як быў маленькім, Браніслаў хацеў быць ксяндзом. Расказвалі, што ўсё ўбіраўся белым (у белае), як бацькі ідуць да касцёла, і "служыў", адпраўляў імшу ў хаце. Маці яго хацела, каб ён стаў ксяндзом, каб паступіў вучыцца ў духоўную семінарыю. На што Браніслаў, пасталеўшы, сказаў: "Ксяндзом добрым быць надта цяжка, а быле якім не хачу". Пасля абраў сабе ў жыцці іншую дарогу. Дарогу вучонасці ў імя свайго народа і чалавецтва. Даведаўшыся, што тады, у 1990-я гады ў Вільню мяне запрашалі прыехаць і азнаёміцца з гісторыяй і культурай беларушчыны Віленшчыны, прыхінуцца да гэтай крыніцы жыцця віленскіх беларусы, Марыя Восіпаўна сказала проста: "Там у Вільні ўжо ёсць беларусаў настаяшча" (відавочна маючы на ўвазе дзесяцігоддзі рэпрэсій, тых, ці іншых неспрыяльнасцяў для нармальнага існавання і развіцця беларушчыны Віленшчыны.

Марыя Восіпаўна распавядала, што добрым знаёмым Браніслава Тарашкевіча і яго родных у Вільні быў ксёндз і грамадскі дзеяч Адам Станкевіч. Ён прыязджаў з Вільні і хрысціў разам з Тарашкевіч Верай (жонкай Браніслава), прычым тады Тарашкевіч Вера была ў якасці хроснай маці, у вёсцы Невярышкі (што па дарозе з Кяны, праз вёску Невярышкі, хутар Палестына, вёскі Гражулішкі, Пятрулішкі да Тарашкевічавых Чарнулішкаў). Азначаную дарогу я добра ведаў, прайшоўся пад добры маразец пешшу ў лістападзе месяцы. Унекалькіх вёсках, у тым ліку і ў Пятрулішках, мяне зацікавілі вялікія, збудаваныя ў традыцыйным для сучаснага беларуска-літоўскага памежжа выглядзе гумны. Гаспадаром такога гумна ў Пятрулішках аказаўся аднайменнік, што да прозвішча Браніслава Тарашкевіча (Казімір Іванавіч Тарашкевіч) яго гумно было пабудавана ў 1930 годзе, з кім мы і паразмаўлялі. Добра, прыязна. Па-беларуску. "Настаяшча" па-беларуску. З Віленскіх беларусаў, знаёмых Браніслава Тарашкевіча і яго родных Марыя Восіпаўна згадала чалавека з прозвішчам Пірышка. І дадала: "Ён сядзеў у турме разам з Браніславам Тарашкевічам". Дзядуля, так называла ў размове са мной Марыя Восіпаўна Адама Людвігавіча (бацьку Браніслава), памёр, чакаючы вызвалення сына, у лістападзе 1931 года.

***І. Карашчанка***
***(Менск, ІМЭФ НАН Беларусі.)***



**На вуліцы адной з вёсак Віленскага раёна бліжэй да Тарашкевічавых Чарнулішак. Восень 1993 г. Фота І. Карашчанкі.**

## "Угодкі Браніслава Тарашкевіча ў Вільні"

20 студзеня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння вядомага вучонага, грамадскага дзеяча Бр. Тарашкевіча.

*"Літаратурная спадчына Браніслава Тарашкевіча, хоць жыццё таленавітага пісьменніка і вучонага было рана абарвана, - даволі багатая і разнастайная яе складаюць публіцыстыка, літаратуразнаўства і пераклады. Калі крытычныя і літаратуразнаўчыя нататкі Тарашкевіча могуць толькі засведчыць аб нерэалізаваных магчымасцях яго ў гэтым жанры, то мастацкая публіцыстыка і пераклады – бясспрэчны здабытак усёй беларускай літаратуры і культуры ў цэлым. Публіцыстычная творчасць Тарашкевіча ўзыходзіць да лепшых нацыянальных традыцый у гэтым жанры – рэвалюцыйна-дэмакратычнай грамадскай думкі К. Каліноўскага, яго "Мужыцкай праўды". Яна тычыцца многіх фундаментальных праблем, якія маюць непамінальнае значэнне для жыцця нацыі. Нарэшце, пранікнёнае, мужнае, палымянае слова Тарашкевіча даносіць да сучаснага пакалення, што заступае на новы грамадскі рубеж, непаўторны вобраз эпохі барацьбы і надзей*, - піша ў прадмове да кнігі Бр. Тарашкевіч "Выбранае"Арсень Ліс. У 1992 годзе ў Нью-Ёрку перавыдадзена "Беларуская граматыка" Бр. Тарашкевіча.

*"Гэтая граматыка адыграла вядучую ролю ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, стандартызацыі правапісу, па ёй вучыліся тысячы вучняў. Але ў 1930 годзе гэты падручнік, як і дзесяткі іншых беларускіх падручнікаў і кніжак, быў забаронены і знішчаны савецкай уладай. Знішчыла савецкая ўлада і Браніслава Тарашкевіча. Асабліва трагічная пара настала для беларускай мовы. У Мінску была праведзена г. зв. рэформа беларускага правапісу ў 1933 годзе, у выніку якой насуперак натуральнаму развіццю мовы, пачалося штучнае набліжэнне беларускай мовы да мовы расейскай. Гэты гвалтоўны працэс, нажаль, не спынены і да цяперашняга часу, ды і калечанне беларускай мовы прадаўжаецца. Аднак накінутыя русіфікатарскія мерапрыемствы мусяць скончыцца!"* – гэта словы да перавыдадзенай граматыкі Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва.

Першыя вучні віленскай беларускай школы карысталіся граматыкай Тарашкевіча, аднак у пятым класе, на жаль, пачалі пісаць наркомаўкай, так як у Беларусі тарашкевіца не ўзаконена. Спадчына яго да гэтага часу недастаткова даследавана і ацэнена. *"Перш з-за таго, што не франтальна прасочаны польскі і ўвесь заходнебеларускі перыядычны друк 20-30-х гадоў, а па-другое, не ўсе псеўданімы Тарашкевіча расшыфраваны"*, - Арсень Ліс канстатуе ў той жа прадмове. Захапляюць яго мужныя прамовы і выступленні на паседжаннях Сейму ў абарону свайго народа і незалежнасці. Мы ведаем Бр. Тарашкевіча, як аўтара "Беларускай граматыкі", выдадзенай ў Вільні ў 1918 годзе, як грамадскага і палітычнага дзеяча, як абаронцу беларусаў напрыканцы мінулага стагоддзя. Ён нарадзіўся недалёка ад Вільні ў вёсцы Чарнулішкі, у 1930 годзе Бр. Тарашкевіч апошні раз наведаў родныя мясціны, у 1931 яго арыштавалі, а ў 1933 абмянялі на драматурга Фр. Аляхновіча. У 1994 годзе ў Вільні на вуліцы Віленскай, дзе нейкі час жыў вучоны ўстаноўлена ТБК табліца ў гонар яго. На ўрачыстасцях прысутнічаў тады народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, у Таварыстве Беларускай Культуры Літвы адбылася вечарына. Калі адзначалася 100 годдзе з дня нараджэння Тарашкевіча, група актывістаў ТБК наведала Радашковічы. У 1997 годзе з вучнямі беларускай школы пабывалі на радзіме Браніслава, сустрэліся з яго пляменніцай цёткай Марыяй і цёткай Лёняй. Цётка Марыя памятала свайго дзядзьку, яна мне пісала лісты. Ён адзін з сям'і выбіўся ў вялікія людзі, і ўсім наказваў вучыцца, бо непісьменным будзе вельмі цяжка жыць. Нягледзячы на цяжкасці, арышты, перашкоды змагаўся Бр. Тарашкевіч за свой народ. Удзячныя нашчадкі памятаюць аб сваім слынным абаронцы. У Таварыстве Беларускай Культуры адбылася ўрачыстая імпрэза "Браніславу Тарашкевічу – 110 г.", у беларускай школе імя Фр. Скарыны аформлены стэнд, у бібліятэцы – выстава кніг, а 20 студзеня ў дзень яго нараджэння – адкрытыя ўрокі па беларускай мове. Шмат робіць для ўшанавання памяці вучонага і ТБМ імя Фр. Скарыны віленскага краю (Ю.Гіль). Уперадзе яшчэ шмат працы. У планах ТБМ адкрыццё таблічкі на будынку школы ў Лаварышках, там ён вучыўся, там пахаваны яго продкі. Прыйдзе час, калі павернецца да натуральнага працэсу развіццё беларускай мовы і культуры, і тады "тарашкевіцы" будзе належаць першая роля".

***Леакадзія Мілаш,***
***г. Вільня,***
***21 студзеня 2002 г.***





# ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

**1. 2002 год для ТБМ Віленскага Краю – юбілейны.**

25 сакавіка 1992 года ў Дзень Звеставання прыйшла добрая вестка – у Міністэрстве юстыцыі Літвы была ў гэты Дзень зарэгістравана наша Таварыства, якое было ўтворана на Устаноўчым З'ездзе ў траўні 1991 года. Гэтую дату мы па-ранейшаму ў гэты год будзем адзначаць добрымі справамі. Сёлета мы працуем у наступных кірунках:

- працягваем ушаноўваць імя Ф. Багушэвіча;
- ушанаванне памяці Б. Тарашкевіча (у сувязі з 110 угодкамі яго нараджэння);
- вырашаць пытанні кананізацыі беларускіх святароў В. Гадлеўскага і А. Станкевіча;
- мерапрыемствы у "Засцянковай хатцы" (прысвечаныя 10-годдзю дзейнасці ТБМ).

**2. Ушанаванне памяці Ф. Багушэвіча працягваецца.**

Падрыхтаваны ўсе матэрыялы (дакументы) і здадзены ў Віленскае раённае самакіраванне на разгляд дэпутатаў аб наданні Савічунскай бібліятэцы імя **Францішка Багушэвіча**. Спадзяемся, што на бліжэйшай сэсіі дэпутатаў раёна гэтае пытанне будзе вырашана.

Таксама праз дэпутата Сойма Літвы беларуса Вацлава Станкевіча накіравана Прашэнне ТБМ Віленшчыны на імя пробашча касцёла ў Руйконах Віленскага раёна (тут хрысцілі Ф. Багушэвіча) аб дазволе ўстанавіць на тэрыторыі касцёла яго Мемарыяльную Дошку. Тут напэўна будзе вырашыць пытанне цяжэй, але спадзяёмся на лепшае.

А ў саміх Свіранах (радзіма Ф. Багушэвіча) на будынку прыватнага дома будзе сёлета ўстаноўлена Мемарыяльная Дошка з адпаведным надпісам на беларускай мове лацінкай. Адкрыццё плануецца пад час правядзення ў Савічунах Багушэвічавых чытанняў (першая субота красавіка 2002 г.).

**3. Прынята пастанова рады ТБМ Віленскага краю ад 5.12.2001 г. "Аб правядзенні Першых Багушэвічавых чытанняў у 2002 г.",** дзе ўказваецца, што ў Савічунах штогод у апошнюю суботу сакавіка м-ца праводзіць Багушэвічавы чытанні і Дзень беларускай паэзіі ў Літве (накшталт таго, як гэта праводзіцца ў Барэйкаўшчыне ў Доме-музеі Сыракомлі У.). Для правядзення такіх мерапрыемстваў ужо створаны ці ствараюцца адпаведныя ўмовы).

У сувязі з тым, што сёлета апошняя субота сакавіка з'яўляецца Вялікай суботай перад Вялікаднем, то правядзенне такога мерапрыемства пераносіцца на наступную суботу, г.зн. першыя Багушэвічавы чытанні адбудуцца 6 красавіка 2002 г. (субота), пачатак у 12-00 у памяшканні Савічунскай бібліятэкі і Літаратурнага музея Ф. Багушэвіча (Віленскі раён, Рукойнская сенюнія, в. Савічуны. Запрашаем на гэтае мерапрыемства дэлегацыю з Менска. Калі ласка, запрашаем у Вільню, на радзіму Ф. Багушэвіча, Свіраны-Савічуны, у Літаратурны Музей і бібліятэку Ф. Багушэвіча на Яго, Багушэвічавы чытанні, якія праводзіць ТБМ Віленскага Краю.

**4. Кананізацыя святароў.** Гэтага заслугоўваюць і беларускія святары Вінцэнт Гадлеўскі і Адам Станкевіч, якія верна служылі Богу, народу і Бацькаўшчыне і аддалі свае жыцці за веру, каталіцкі касцёл і свой народ...

ТБМ Віленшчыны, каталіцкая грамада беларускага каталіцкага касцёла св. Барталамея ў Вільні лічаць а.а. В. Гадлеўскага і А. Станкевіча сваімі прарокамі і святымі ў справе рэлігійнага і нацыянальнага Адраджэння. Праз дэпутата – беларуса Сейма Літвы Вацлава Станкевіча ў адрас біскупа Гарадзенскай дыяцэзіі а. Аляксандра Кашкевіча накіраваны падрыхтаваныя матэрыялы (дакументы) с просьбай хадатайнічаць перад Папам Рымскім Янам-Паўлам II аб кананізацыі В. Гадлеўскага і А. Станкевіча.

Таксама збіраюцца матэрыялы пра іх дзейнасць, каб у далейшым у парафіяльным Доме касцёла св. Барталамея ў Вільні адкрыць адпаведную экспазіцыю.

У хуткім часе ў польскай газеце "Наш час" будзе надрукаваны мой артыкул пад назовам: "Постаці беларускага рэлігійнага і нацыянальнага адраджэння – Вінцэнт Гадлеўскі і Адам Станкевіч (да пытання іх кананізацыі). Хацелася б каб і на старонках беларускамоўных газет "Наша слова" і "Рунь" з'явіліся адпаведныя артыкулы, што б садзейнічала вырашэнню гэтага пытання.

**5. 2002 год – 110 угодкі Браніслава Тарашкевіча.**

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю дамагаецца перад віленскімі раённымі ўладамі аб устанаўленні Мемарыяльнай Дошкі на будынку Лаварышскай СШ, дзе ў свой час вучыўся Б. Тарашкевіч. На гэты конт ёсць Пастановы Рады школы і Рады РайАНА аб устанаўленні гэтай Дошкі, але пакуль што яна на паперы.

Праўда, у Лаварышках адна з вуліц носіць імя Браніслава Тарашкевіча і гэта цешыць, але гэтага мала. Ёсць некаторыя сілы ў раёне (пальшчызна), якія робяць супраціў гэтай справе, спасылаючыся, што Б. Тарашкевіч вёў барацьбу ў свой час з польскімі ўладамі.

Дырэктар Лаварышскай СШ (руска-польскай) Хелена Кеда адмовіла ў тым, каб школа насіла імя Б. Тарашкевіча, а рэдакцыя раённай газеты "Дружба" у каторы раз адмаўляе друкаваць матэрыялы пра Браніслава Тарашкевіча (дарэчы, Віленскі раён называюць польскім, бо там большасць дэпутатаў ад польскай палітычнай арганізацыі і гэтым тлумачыцца цяжкасць у вырашэнні гэтага пытання.

ТБМ Віленшчыны не апускае рукі, працуе ў гэтым кірунку збірае матэрыялы пра Б. Тарашкевіча. Хацелася б мець дапамогу і ад навукоўцаў Менска, у прыватнасці ад А. Ліса, якія б дапамаглі кніжкамі і др. матэрялмі. Чакаем дапамогі!

**6. На канец чэрвеня 2002 года рыхтуецца мерапрыемства на тэму: "Крыжовы шлях...",** прысвечаны 10-годдзю ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю, якое будзе праводзіцца на базе "Засцянковай хаткі" у засценку Вашунова Віцебскай вобласці. Гэта будзе напярэдадні рэлігійнага свята ў Будславе, якое адбываецца штогод 2 ліпеня.

Наша Таварыства працуе, жыве, дзейнічае...

**7. Барацьба з докшыцкай біюракратыяй працягваецца.**

Ужо прайшло шмат часу, як у 1999 годзе быў зроблены бандыцкі напад на "Засцянковаю хатку". Докшыцкія раённыя ўлады і праваахоўныя органы апякуюць гэтых нападнікаў Пракуратурай РБ супраць іх узбуджана крымінальная справа, але пракурор Докшыцкага раёна Байданаў матэрыялы следства не перадае ў суд. Ужо ў каторы раз спыняе справу. Я зноў па гэтым пытанні з'вярнуўся ў Вярхоўны Суд і Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Злачынцы павінны панесці пакаранне.

**Старшыня ТБМ Віленшчыны Юры Гіль.**
**"17" студзень 2002 г.**

# На гонар руплівцаў беларускай мовы

Урачыстая вечарына 18 студзеня 2002 г. у памяшканні музея Янкі Купалы адбылася чарговая ўрачыстая вечарына грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына". Яе мэта палягала галоўным чынам у ганараванні нашых слынных суайчыннікаў рознымі ўзнагародамі за тую дзейнасць, якой яны займаліся і займаюцца дзеля беларускай будучыні. Такіх асобаў на гэты раз было ажно чатыры. Кульмінацыяй вечарыны, як і чакалася, стала віншаванне вельмішаноўнага сябра клуба "Спадчына", вядомага беларускага мастака Яўгена Ціхановіча з ягоным 90-гадовым юбілеем і



**Ганаруецца Яўген Ціхановіч**

ўшанаванне яго пачэснай і ганаровай узнагародай - бел-чырвона-белай стужкай з выявай Пагоні і з надпісам "Ганец адраджэння". Той унёсак у беларускае выяўленчае мастацтва, які зрабіў за сваё доўгае жыццё юбіляр, заслугоўвае самых лепшых ухвалаў. Але дзе яны ад афіцыйных, дзяржаўных установ? Пэўна, наўрад ці дачакаецца іх сціплы і сумленны творца. Ды і ці патрэбна яму іх чакаць? На вечарыне ж, наадварот, сам юбіляр шчодра адорваў сваімі творамі іншых, у тым ліку і Таварыства беларускай мовы. Пасля гэтага узнёслага моманту адбыліся і астатнія ганараванні ўзнагародамі, што былі вызначаны клубам "Спадчына". Так, медалём з выявай Язэпа Лёсіка (вядомага беларускага філолага) за служэнне роднаму слову была ўзнагароджана выкладчык матэматыкі, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Людміла Майсеня. У сваім слове ў адказ яна, між іншым, адзначыла такую цікавую і трывалую тэндэнцыю у нашай моладзі як свядомае імкненне да спасціжэння сваёй нацыянальнай адметнасці. Былі прыведзены яскравыя прыклады з яе 10-гадовай практыкі выкладання вышэйшай матэматыкі па-беларуску, што суправаджалася гарачымі воплескамі прысутных.



**Прамаўляе Людміла Майсеня**

Наступным быў ушанаваны вядомы пісьменнік і даследчык нашай даўніны Арсен Ліс. Яму быў уручаны медаль з выявай Язэпа Драздовіча за надзвычай глыбокае даследванне дзейнасці гэтага выбітнага беларускага мастака і культурніцкага дзеяча пачатку мінулага стагоддзя і за напісанне кнігі "Вечны вандроўнік." Пад шчырыя воплескі была ўручана ганаровая ўзнагарода, ордэн "Гонар Айчыны", мастаку Алесю Цыркунову, сябру клубу "Спадчына" і творчай суполкі "Пагоня". Камітэт па ўшанаванні палічыў яго вартым такой высокай ўзнагароды за паслядоўную і высокапрафесійную дзейнасць на ніве адраджэння нацыянальнай свядомасці рознымі выяўленчымі мастацкімі сродкамі. На працягу вечарыны колькі сваіх твораў выканалі аўтар-спявак Пятро Русаў і пад акампанемент гітары арыгінальная спявачка Ларыса Жывалеўская. Акрамя гэтага сябрамі клуба "Спадчына" былі абмеркаваны надзённыя пытанні дзейнасці. Найбольш значныя з іх - усталяванне помніка-стэлы "Змагарам за родную мову" ды пытанне аб належным ушанаванні святара-пакутніка ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Клуб і надалей рыхтуецца праводзіць свае культурна-асветныя мерапрыемствы. Той, хто мае паслушыцца на карысць Бацькаўшчыне, звяртайцеся да старшыні клуба сп. Анатоля Белага ( х.т. 235 - 66 - 08, г. Менск).

*А. Белчырвонабелы.*



**Ганаруецца Арсень Ліс**





Алесь Грудзіна

# ШКЛОЎ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

*"... я табе спад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой Маскаля ўжо ня будзе".*

*Кастусь Каліноўскі.*

У жніўні 1772 года знясіленая шматлікімі войнамі, феадальнай анархіяй Рэч Паспалітая стала ахвярай змовы сваіх суседзяў -- Аўстрыі, Прусіі і Расіі, якія дамовіліся аб падзеле яе тэрыторыі. Агрэсіўная і дэспатычная Расія захапіла Інфлянцкае ваяводства, большую частку Полацкага ваяводства, амаль усё Віцебскае і ўсё Магілёскае ваяводствы (у тым ліку і Шклоў), а таксама частку Менскага ваяводства. Агульная плошча далучанай да Расійскай Імперыі тэрыторыі дасягала 86 тысяч квадратных кіламетраў, а колькасць насельніцтва перавышала адзін мільён 225 тысяч чалавек.

У мэтах стварэння на далучанай тэрыторыі Беларусі надзейнай сацыяльнай апоры расійскаму самаўладству Кацярына II пачала шырокую раздачу зямель з прыгоннымі сялянамі рускім памешчыкам, найперш з ліку сваіх фаварытаў, вайскоўцаў і буйных чыноўнікаў. Пацягнуліся на новыя ўладанні і тыя, каго абышлі чынам, месцам або ўзнагародай, чыя гаспадарка прыйшла ў заняпад, а па-сапраўднаму працаваць не было ні жадання, ні ўмення. У сваіх успамінах чыноўнік асобых даручэнняў А. Масолаў пісаў, што на правінцыі ўсе гэтыя чыноўнікі адчувалі сябе не вельмі добра, бо вымушаны былі жыць у варожым акружэнні і ад смутку ў асноўным "пілі горкую" і "гулялі ў карты".

Губернская канцылярыя Магілёва, якой кіраваў Васіль Алоеўцаў, стала мекай для авантурыстаў, якія дамагаліся годных месцаў. Алоеўцаў і раздаваў іх, таму яго чыноўнікі "чтили как золотого тельца". Пры ім пасля працы ладзіліся шумныя п'янкі. Нават праваслаўны епіскап Р. Канінскі скардзіўся губернатару М. Кахоўскаму на начныя сходы канцылярыстаў, бо тое "соблазнительно для истинных христиан и душегубно" для неверных.

Падобныя з'явы назіраліся ў той час і ў новых уладальнікаў Шклоўскага маёнтку. Няўмелае кіраўніцтва гаспадаркай прывяло да таго, што знакаміты культурна-эканамічны бум, які назіраўся ў Шклове пры дзейнасці вядомага фаварыта рускай Імператрыцы генерала Семёна Зорыча аказаўся кароткачасовым. Пры гэтым драпежніцкая эксплуатацыя сялян і рамеснікаў Шклоўскага маёнтка прывяла да іх крайняй беднасці. Літаратар А.В. Нікіценка, які наведаў у гэты час Шклоў, у сваім дзённіку зрабіў такі запіс: "Я заходзіў у хаты тутэйшых сялян – што за праца і беднасць. Дзеці брудныя, амаль усе ці пакутуюць хваробамі вачэй, ці балячкамі на твары і на целе. Твары пазбаўлены жывасці, атупелыя, хаця пад гэтай іх маскай хаваюцца розум і хітрасць. Гэтыя людзі віdаць пакутуюць ад празмернай беднасці і прыгнёту". Вось чаго каштавала раскошнае жыццё тагачаснага ўладальніка Шклова.

Амаль у адно́лькавых умовах апынулася пераважная большасць сялян на новых далучаных землях. Гэта садзейнічала таму, што вясной 1794 года ў Беларусі, Польшчы і Літве выбухнула нацыянальна-вызваленчае паўстанне, кіраўніком якога быў абраны нашчадак старажытнага беларускага роду, генерал Тадэвуш Касцюшка. Першапачаткова яно развівалася паспяхова. 22 красавіка паўстанне перамагло ў Вільні і хутка стала пашырацца на іншыя беларускія гарады і мястэчкі. Касцюшка 7 траўня выдаў "Маніфест", які надзяляў сялян асабістай воляй, прызнаваў за імі права на зямлю, якую яны апрацоўвалі, абмяжоўваў паншчыну. Гэта павярнула да паўстання сялян. Аднак аддзелы дрэнна ўзброеных паўстанцаў не маглі супрацьстаяць рэгулярным рускім войскам, да таго ж і ў кіраўніцтве паўстанцаў было зроблена некалькі стратэгічных памылак. Да восені паўстанне было жорстка задушана, а сам Касцюшка цяжка паранены ўзяты ў палон. Давялося ў хуткім часе славутаму беларусу праехаць і вуліцамі тагачаснага Шклова. Па загаду Кацярыны II Касцюшку павезлі ў Пецярбург. Баючыся нападу паўстанцаў маршрут абралі акружны – праз Украіну, потым праз Гомель, Магілёў, Шклоў і далей на Оршу і Віцебск. Невядома, ці адбылася сустрэча ў Шклове Т. Касцюшкі і С. Зорыча. Але калі і адбылася і пазіркі іх сустрэліся, то аб чым былі ў гэты момант іх думкі? Пра гэта можна толькі меркаваць, бо на скрыжаванні гістарычнага лёсу сустрэліся два генералы якія па-рознаму дасягнулі гэтага звання і па-рознаму выканалі сваё прызначэнне на Беларусі. Так рэалізавалася абяцанне рускай царыцы зрабіць далучаныя да Імперыі народы "соучасниками блаженства, славы и величия".

Пасля смерці С. Г. Зорыча імператрыца Марыя Фёдараўна з дазволу свайго мужа Паўла I мела ласку прыняць апеку над маёнткам. У выніку Шклоўскі маёнтак не быў дапушчаны да публічнага продажу і яго спадчыннікам стаў брат Зорыча Давыд Гаўрылавіч Неранчыч. Ён у 1802 годзе атрымаў дазвол далучыць да свайго прозвішча і прозвішча памёршага брата і пісаўся Неранчыч-Зорыч. Яшчэ раней ім асабіста праводзіўся распродаж маёмасці ў тым ліку і артыстаў Шклоўскага тэатра. Менавіта для гэтага ў Шклоў у 1800 годзе быў пасланы I. I. Вальберх, інспектар балета і выкладчык дырэкцыі Імператарскіх тэатраў. Ён выбраў 8 мужчын і 6 жанчын. Усе яны былі прызваны на службу дырэкцыі тэатраў.

Па-рознаму склаўся лёс шклоўскіх артыстаў, але больш за ўсіх праславілася Кацярына Азарэвіч. А праз пэўны час ужо і яе дачцэ Марыі выпадзе першай у расійскай тэатральнай гісторыі выканаць ролю гераіні Лізы ў сцэнічным увасабленні грыбаедаўскага "Гора ад розуму".

Неранчыч-Зорыч рабіў спробу аднавіць частку разбуранага, але сродкі яго былі мізэрныя і, напэўна, чалавек ён быў не вельмі высокага інтэлектуальнага ўзроўню. Пісьменнік Д. I. Фанвізін, які сустракаўся з ім у Парыжы, пісаў, што: "Неранчыч ніколі не браў кнігі ў рукі і ніколі карты з рук не выпускаў".

Між тым гібель Шклова як цэнтра забаў у Беларусі не азначала канчатковага заняпаду горада. Шклоў юрыдычна заставаўся буйнейшым мястэчкам у Магілёўскай губерні. У 1803 годзе ў ім налічвалася 1015 дамоў, дзейнічалі пяць праваслаўных цэркваў, касцёл, тры манастыры, чатыры яўрэйскія малітоўныя дамы, гасцінны двор, вялікая колькасць гандлёвых лавак, будынак уладальніка.

У 1812 годзе Беларусь зноў ператварылася ў арэну жорсткіх бітваў – пачалася Айчынная вайна. Напачатку Шклоўскі маёнтак абмінулі і адыходзячыя рускія войскі, і галоўныя сілы французскай арміі. Толькі 14 (26) ліпеня ў Шклове адбылася невялікая сутычка, аб якой вядома з данясення атамана Данскога войска М. Платава камандуючаму 2-й Рускай арміі генералу П.І.Баграціёну: "Адпраўленыя ад мяне для пошуку каманды, адна ў Шклове... напаўшы на непрыяцеля, секла яго і прагнала праз раку Дняпро, узяўшы ў палон 8 афіцэраў і 72 радавых".

Потым пачаўся час акупацыі. Насельніцтву не было спакою: безупынныя рэквізіцыі, калі выграбалася апошняя жменя зерня, забіраўся апошні жмут сена; напады банд марадзёраў, якія ў вялікай колькасці бадзяліся па навакольных лясах. За час акупацыі толькі шклоўскія яўрэі паставілі для французскага войска пяць тысяч пар абутку і тры тысячы мундзіраў, не лічачы харчоў. Усяго ж за 1812 год шклоўскае яўрэйскае таварыства панесла страт на 200 тысяч рублёў.

Розны быў удзел у гэтай вайне. Сотні мужчын неслі службу ў расійскім войску. Адзін з іх, Раман Рыгоравіч Бекер, былы прыгонны танцор Шклоўскага тэатра, уступіў у апалчэнне. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Беларусі. За ўзяцце Полацка ён стаў навіцца Георгіеўскім кавалерам, у далейшым за храбрасць і мужнасць прызначаецца прапаршчыкам. Сам жа ўладальнік Шклоўскага маёнтка Сямён (Арсені) Паўлавіч Чарнаевіч, да якога мястэчка перайшло ў 1811 годзе пасля смерці Д. Г. Неранчыча-Зорыча, схаваўся з усёй сваёй сям'ёй у глухой вёсцы Рабкі сярод лясоў і балот у Чавускім павеце.

Вызвалены Шклоў ад французаў быў 10 кастрычніка 1812 года аддзелам казакоў на чале з падпалкоўнікам Храпавіцкім з праслаўленага партызанскага злучэння Д. В. Давыдава. А 28 лістапада ў мястэчку Стараселле, сучаснага Шклоўскага раёна, размясціўся са сваёй галоўнай кватэрай галоўнакамандуючы рускай арміі М. І. Кутузаў. Менавіта тут аддаў ён загад аб аперацыях на рацэ Беразіне, дзе быў нанесены знішчальны ўдар па французскай арміі.

Кароткачасовае "гаспадаранне" захопнікаў на Беларусі нанесла вялізную матэрыяльную шкоду яе гаспадарцы. Па няпоўных дадзеных, чатырохмесячнае знаходжанне французаў у Магілёўскай губерні абышлося яе насельніцтву ў 33,5 мільёнаў рублёў. У выніку эпідэмій, голаду і вайны рэзка скарацілася насельніцтва губерні: з 401056 чалавек у 1812 годзе (да нашэсця Напалеона) да 320404 чалавек у 1817 годзе, або за пяць гадоў зменшылася на 21 працэнт.

Але нягледзячы на нягоды, якія выпалі на долю жыхароў Шклоўшчыны, яны змаглі ў кароткі тэрмін аднавіць эканоміку мястэчка. Пасля вайны ўсё большае значэнне стаў набываць гандаль купцоў Магілёўскай губерні з Украінай, на чым асабліва хутка разбагацелі шклоўскія купцы. Яны займаліся скупкай у губернях Украіны хлеба – жыта, пшаніцы, аўсу, рознага роду круп і солі. Завозілі тавары па Дняпры ў Шклоў на караблях (берлінах). Сюды з'язджаліся гандляры і прамыславікі для куплі тавару, які ўжо сухім шляхам ішоў у Смаленскую, Віцебскую, Менскую губерні. Значная частка хлеба адвозілася ў горад Рыгу. За год на Шклоўскую прыстань прычальвала да 1000 берлін, яны разгружаліся, а прывезены тавар захоўваўся ў спецыяльных двух і трохпавярховых свіранах, колькасць якіх даходзіла да 150. Разгрузачныя работы выконвалі штодня каля 500 чалавек і 1200 падвод для транспартавання. У свірнах знаходзілася хлеба на 5 мільёнаў рублёў і солі – на адзін мільён рублёў. У росквіце (1815-1825 г.г.) штогадовы таваразварот дасягаў 50 мільёнаў рублёў.

Малюнак таго, што ўяўляў Шклоў у той час, можна атрымаць на падставе рапарта магілёўскаму, віцебскаму і смаленскаму генерал-губернатару аб неабходнасці асобага ўладкавання мястэчка ў паліцэйскім парадку за 1829 год. У той час Шклоў складаўся з чатырох частак, - Новашклоўскай, Старашклоўскай, Рыжкаўскай і Задняпроўскай, раздзеленых на 12 кварталаў. Мястэчка, а менавіта гэта назва ў 1818 годзе канчаткова вызначыла ролю Шклова ў адміністрацыйнай сістэме, мела чатыры ўезды, рынак, адну паштовую, чатыры купецкіх і прасёлкавых дарогу, карабельную прыстань, пераправу праз Днепр і тры масты. Сярод забудоў вылучаліся пяць цэркваў, два рымска-каталіцкія касцёлы, 16 мураваных будынкаў, а таксама 30 заезджых дамоў, два тракціры і 1550 дамоў, 200 лавак і 20 "лабазаў". Большую частку насельніцтва складалі яўрэі – 8600 з 10610 чалавек.

Але з часам сацыяльна-эканамічны ўзровень і агульнае значэнне Шклова пачынаюць падаць. Таму садзейнічалі розныя прычыны.

У 1831 годзе Беларусь падтрымала антырасійскае паўстанне, якое пачалося ў Польшчы. Радыкальная частка шляхецкіх рэвалюцыянераў выступала як за нацыянальнае вызваленне, так і за надзяленне сялян зямлёй з выплатай страт памешчыкам, за сумесную з расійскім народам вызваленчую вайну з царызмам пад лозунгам "За нашу і вашу свабоду". Пасля яго задушэння пачаліся рэпрэсіі, рускім царызмам быў узяты курс на паслядоўную русіфікацыю краю. У афіцыйных дакументах было забаронена выкарыстоўваць назвы "Беларусь" і "Літва", а замест іх уводзілася назва "Северо-Западный край". Былі зачынены Віленскі універсітэт, яшчэ раней – у 1820 годзе, як "неблагонадёжный" – Полацкі універсітэт, іншыя навучальныя ўстановы. Узмацніўся наступ супраць уніяцкай царквы і каталіцкага касцёла. Гэта акцыя суправаджалася спальваннем рэлігійных і вучэбных кніг, многа з якіх былі беларускамоўныя. Менавіта такі лёс напаткаў Шклоўскі дамініканскі манастыр, заснаваны Аляксандрам Хадкевічам яшчэ ў пачатку 17 стагоддзя.

Акрамя палітычных, заняпаду Шклова паспрыяла і шэраг эканамічных прычын. Па меры таго, як па Расіі раскідвалася сетка чыгункі і ў сувязі з адтокам грузаў на Пінскую і Бабруйскую прыстані, у Шклове пачаў падаць хлебны і саляны гандаль. Да 1860 году з паўднёвых губерняў прывозілася хлеба толькі на 328 тысяч і солі на 40 тысяч рублёў, а колькасць свірнаў мелася на прыстані 25, і тыя былі напалову разбураны. Адыграла ролю і тое, што новая Санкт-Пецярбургская дарога праходзіла ў баку ад яго. У пачатку 1836 года члены Шклоўскага кагала звярнуліся з просьбай у Міністэрства ўнутраных спраў аб накіраванні лініі па старому тракту праз Шклоў. Але на гэта атрымалі адмоўны адказ.

У пэўнай ступені заняпад звязаны і са зменай ў кіраванні мястэчкам. У 1826 годзе, пакінуўшы вялізныя даўгі, памёр апошні з асасобных уладальнікаў Шклоўскага маёнтка і родзічаў С. Зорыча вянгерскі дваранін С.П.Чарнаевіч. Па распараджэнню ўрада маёнтак быў аддадзены ў догляд дваранскай апецы і затым перайшоў да розных уладальнікаў. Так, тры часткі – Новашклоўская, Рыжкаўская і Задняпроўская перайшлі ў традыцыю да палкоўніка барона Саргера. Для пагашэння даўгоў С.П. Чарнаевіча Губернскае Кіраванне неаднаразова звярталася ў Кіраўнічы Сенат з просьбай аб продажы маёнтка з публічных таргоў. Аднак у сенацкім указе ад 31 сакавіка 1838 года паведамлялася, што продаж немагчымы і таму задавальненне даўгоў павінны рабіцца з фондаў маёнтка, якія паступае ў адміністратыўнае губернскае кіраванне, сучасным жа ўладальнікам маёнтка "обращение доходов в свою пользу воспретить". Частка маёнтка, свабодная ад традыцыі, была ўзята ў адміністрацыю. У 1842 годзе сенат выканаў просьбу ўладальнікаў Шклова аб вызначэнні для іх часткі даходаў, якія паступалі ў Губернскае Кіраванне. З той часткі даходаў, якія знаходзіліся ў адміністрацыі, ім выдзялялася штогод чацвёртая частка.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Працяг дыскусіі*

# Нацыянальны рок як супрацьвага самавынішчэнню

З цікавасцю прачытаў 14 лістапада 2001 года ў "Нашым слове" артыкул свайго калегі Анатоля Мяльгуя "Беларускі рок – культурны фяномен у несвабодным грамадстве", з якім мне выпала шчасце разам быць адрынутым Беларускім калегіюмам. Газетная публікацыя апынулася нават лепшай за лекцыю ў тым калегіюме хаця б праз тое, што асабіста я чытаў яе некалькі разоў і ўсё адкрываў новыя нюансы разгляданай праблемы – уплывы мовы на далёкія ад лінгвістычнай сферы культуры. Напрыклад музыку.

У рэшце рэшт у маёй свядомасці пачалі выкрышталізоўвацца аспекты, якія мімаволі абмінуў А. Мяльгуй (а мо проста вырашыў абмежавацца, сканцэнтравацца лакальна на беларускім кантэксце). А мне вось прыгадаўся міжнародны аспект праблемы. Многія здаўна лічаць, што рок-музыка можа быць толькі англамоўнай. У прыклад прыводзіцца нямецкі "Sccepion", шведская "ABBA", галандскі "Shocking-blue"...

На жаль, не кожнаму дадзена магчымасць аб'ектыўнай ацэнкі, але калі я бываў у Нямеччыне, заўважыў, што там ніколі не бывае праблем трапіць на канцэрт тых "Sccepion",а вось нямецкія выканаўцы, імёны якіх мы нават і не ведаем, зрываюць татальныя аншлагі. У Мюнхене я нават трапіў на канцэрт славутай аўстралійскай каманды "Midnightoil", а вось на нейкага Штуцэргайзера не змог. Парадокс?

Шмат што растлумачылі мне нядаўнія гастролі па Беларусі галандскага метал-гурта "Thikd Stowe". Мне асабіста выпаў шанц і прымаць удзел у жывым эфіры з гэтымі англамоўнымі галандцамі на радыё "Мір", і самому браць у іх інтэрвію. Яны наадпаразова казалі, што рок на галандскай мове існуе, але гэта чыста камерцыйныя праекты, а мы, маўляў, авангардысты, ідзем у той незалежнай плыні, якую самі слухаем.

Яны, праўда, заўважылі, што ў Беларусі, ім на дзіва, усё наадварот: увесь альтэрнатыўны авангард трымаецца за нацыянальныя карані, і яны самі вельмі рады былі падтрымаць "гэтых цудоўных авангардыстаў" сваім беларускамоўным уступам для кампакт-дыска "Hakd Life-Heavy Music" (2001, "БМAgroup).

Прызнацца, я асабіста яшчэ з 70-х гадоў захоплены рок-музыкай Галандыі, паказваў ім рарытэты сваёй калекцыі – кампактдыскі гуртоў "Livinq blucs", "Shockinq bluc", "Ekseption", "Golden Earing". Якое ж было дзіва для мяне, што гэтыя англамоўныя гурты, папулярныя ва ўсім свеце, зусім невядомыя новым англамоўным галандцам (толькі адзін з іх трошкі прыгадаў "Golden Earing", але не назваў сярод сваіх куміраў).

Відаць, нават выдатныя музыканты, якія праз чужую мову выпалі з кантэксту сваёй культуры, не патрэбныя ні на радзіме, якая не хоча буць культурнай калоніяй, ні ў мітраполіях англамоўнага року, дзе яны заўсёды будуць глухой правінцыяй.

Прыгадваю і бліскучых айчынных музыкантаў з гуртоў "Форпост", "Инспектор", "Архив"... Штосьці нават не згадваюць пра іх людзі, забыла прэса, хоць адзін з гітарыстаў (Аркадзь Юшын) дамогся нават выгадных кантрактаў у ЗША, другі (Віктар Смольскі) грае ў нямецкім супергурце "Rage". Выходзіць, раз свет не прыгадвае аб Беларусі ў іхнім кантэксце, дык і Беларусь адказвае тым жа. У гэтым сэнсе Беларусь ні чым не адрозніваецца ад Галандыі. Легендамі культуры ўсюды становяцца не зухаватыя рамеснікі, а адданыя сыны.

Часам мае калегі выказваюць мне свой подзіў: "Чаму ты вечна пішаш пра нейкіх невядомых і не падтрыманых прэсай, а праз гады менавіта твае героі застаюцца ў памяці? Ты што, Настрадамус нейкі? І адказ мой звычайна простны: я аналізую культурны кантэкст, а не экзамены ў рамеснікаў прымаю.

А прэса чамусьці сапраўды вельмі шырокім фронтам аналізуе рамесніцкія паказчыкі, прыходзячы часам да абсурдных высноваў: рок павінен гучаць на мове, дзе нарадзіўся. Нібыта намёк на ангельшчыну, але чамусьці забываецца, што ад пачатку складнікамі новай рокавай субкультуры ў 50-х гадох мінулага стагоддзя сталі і традыцыі афраамерыканскага музыцыравання, і ірландскага, а потым і індыйскага.

Чаму вы, пісакі, забываеце пра цэлыя магутныя плыні як Latin rock, Neue deutsche Welle, polish wave? Менавіта дзякуючы традыцыям NDW, напрыклад, сёння ўсе сусветныя гіт-парады захапілі нямецкамоўныя немцы "Lacrimosa", "Rammstein". Яны ўпісваюцца і ў сусветны кантэкст, і ў свой, нямецкі. І на радзіме іх будуць памятаць, нават калі свет забудзе.

Але вось англамоўныя галандцы (ангельшчына якіх яўна кульгае болей, чым польская мова Лявона Вольскага з яго ным "венцэй нічэго я не патшэбую" замест "венцэй ніц") выпадкова абмаўляюцца, што мараць, каб свет размаўляў на адной мове, і вось ужо двухмоўная газета "Беларуская маладзёжная" кідае камень у мой агарод: "Чуў бы іх Вітаўт Мартыненка, бо яны ж мелі на ўвазе не беларускую мову" ("БМ" № 46 за 7.12.01).

Чаму радуецеся, дурненькія? Ды чуў я гэтых простых галандскіх хлапцоў, якія ў адрозненне ад вас, размаўляюць паміжсобку ўсё ж на роднай мове, хоць і не чыталі нашага Караткевіча, які сказаў пра родную мову пераканаўча:

***Яе разам з матчынай цыцкаю***
***Даў табе ў твае вусны Бог.***
***Пі. І ведай: гіне ў праклятых***
***І з дзярма навек не ўстае***
***Той, хто выплюнуў цыцку маці***
***Або злосна ўкусіў яе.***

Чула б гэтыя словы Насця Пятроўская ды іншыя двухмоўныя "тусоўшчыкі" газеты "Беларуская маладзёжная",мо і паўсталі б з дзярма ды пачыталі б іншую сусветную аўтарытэтную кніжыцу пра адну мову для ўсіх – "Джордж Оруэл" (1984).

Там акурат пра тую мову, на якой выдаецца ваша газета – называецца Newspeak. Ні рускай, ні беларускай. Ніякай. Словы ***"зараз"*** і ***"цяпер"*** не можаце адрозніць. Ні беларусу адчуць прыгажосць роднага, ні чужынцу падзівіцца. Нават імя сабе для беларускага тэксту прыдумалі не беларускае, а сплюшчанае рускае – ***"тусоўшчыкі"***. Мо родных ***"хаўруснікаў"*** саромеецеся? Дык не лезьце з такім нябогім комплексам уласнай непаўнавартасці тлумачыць філасофскія вобразы Вавілонскай вежы. У вас у галаве і ў вашай газеце - Вавілонская вежа, бо зняважылі тое, што даў Бог (кожнаму сваё), а палезлі ў агульную сусветную кучу.

Калі культурныя людзі збіраюцца на ўрачыстае застолле, усе ведаюць, што потым кожнаму давядзецца (паеўшы ды папіўшы) наведаць прыбіральню, але штаноў за сталом ніхто не здымае. Вы ж, двухмоўныя, заклікаеце на свяце сусветных культур адразу скінуць вопратку душы. Каб не абпэцкацца на Вавілонскай вежы, якую вы сабе ў сваёй газеце ўжо збудавалі, намагаючыся "перадолець наступствы будаваныя Вавілонскай вежы"? ("БМ" № 46, 2001).

Парадокс? Не! Проста філасофскае адзінства супрацьлегласцяў: хто гучна кліча да адмоўнага дабра, той заўсёды ўсіх у балота невуцтва, калі з адной мовы на розных полюсах планеты усё адно пачнуць выкрышталізоўвацца розныя традыцыі, розныя мовы, розныя культуры, і свет будзе такім, якім ёсць. Толькі нас там ужо не будзе. І гэта будзе ўжо зусім іншая гісторыя - гісторыя супольнасці, якая нарэшце перастане вынішчаць сама сябе, адмаўляючыся спачатку ад багацця культурнага, потым расавага, потым полавага, потым узроставага.

***Вітаўт Мартыненка.***

# Юбілей хору "Бацькаўшчына"

У снежні 2001 г. споўнілася 10 гадоў хору "Бацькаўшчына" з Горадні пад кіраўніцтвам спадарыні Веры Кунцэвіч. Адметнасць гэтага хору палягае на тым, што яго рэпертуар складаецца з лепшых твораў беларускай духоўнай музыкі XVII-XX ст. незалежна ад канфесійнай прыналежнасці. Так склалася наша гісторыя і наша культура, што цэлы пласт беларускай музыкі "выпаў" з поля зроку музыкантаў, гэтыя творы амаль не гучалі па-за сценамі храмаў і, тым больш, не гучалі разам у адных канцэртах.

Першыя ж выступленні хору былі сустрэты слухачамі з вялікай цікавасцю. Паспяховымі былі ўсе канцэрты хору па гарадах Беларусі, з захапленнем іх прымалі слухачы Даніі, Францыі, Польшчы.

У 1992-94 г.г. хор "Бацькаўшчына" спяваў кожную нядзелю ў Фарным касцёле Горадні пад час беларускай імшы, куды збіраліся не толькі каталікі, але і праваслаўныя, каб паслухаць прыгожыя спевы, беларускае слова.

Высокі прафесійны ўзровень выканання харам духоўнай музыкі быў адзначаны І месцам, якое хор "Бацькаўшчына" атрымаў на фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве ў 1996 г. 10 студзеня 2002 г. у Гарадзенскім гарадскім доме культуры сабралася поўная зала ўдзячных слухачоў і сяброў хору, каб павіншаваць іх з юбілеем. Пасля працяглых апладысментаў, якімі гледачы сустракалі кожны твор, беларускія калядкі ды іншыя творы, павіншаваць юбіляраў выходзілі на сцэну народныя ансамблі "Нёман" і "Гасцінец", гарадзенскія мастакі, літаратары, навукоўцы, музыкі, прадстаўнікі ТБМ Гарадзеншчыны і іншых дэмакратычных няўрадавых арганізацый, сябры, прыхільнікі, спонсары.

А напрыканцы на сцэну вынеслі вялізны торт са свечкамі, якога, пэўна, хапіла, каб даць асалоду не толькі ўсім удзельнікам хору, але і іх сваякам.

***Ніна Капуннікава.***

# Выстава выяўленчых студый

У берасцейскім музеі "Выратаваныя каштоўнасці" адкрылася выстава работаў выхаванцаў выяўленчых студый "Дэкор" і "Творчасць" Дома дзіцячай і юнацкай творчасці. Усяго прадстаўлена больш 50 работ. Для большасці выхаванцаў гэта стала першай спробай.

**На здымку:** Таня Паляшчук, якая другі год займаецца ў студыі "Дэкор", працуе ў рэдкай тэхніцы - гарачы батік.



Фота Рамана Кабяка, БелТА.


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/





Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 02. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 319.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.